«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

№ 68 (4628)

7 верасня 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Вялікі дзякуй усім, хто падтрымлівае «Народную Волю» ў гэты надзвычай цяжкі час.**

*Рэдакцыя.*

ГРЫМАСЫ ФЕМІДЫ

## Як выносілі прысуд Марыі Калеснікавай і Максіму Знаку

*Учора яны былі асуджаны адпаведна на 11 і 10 гадоў зняволення.*


Марыя Калеснікава і Максім Знак за кратамі.


Ніхто з тых, хто прыйшоў падтрымаць Максіма і Марыю, на суд не трапіў.

Як вядома, у мінулым годзе **Марыя Калеснікава** ўваходзіла ў перадвыбарны штаб экс-банкіра і прэтэндэнта на прэзідэнцкую пасаду **Віктара Бабарыкі**, а пазней перайшла у аб'яднаны штаб **Святланы Ціханоўскай**.

Марыю затрымалі на пачатку верасня 2020 года, пасля чаго спецслужбы паспрабавалі вывезці яе з Беларусі ва Украіну. На мяжы Калеснікава парвала свой пашпарт, каб пазбегнуць вымушанай дэпартацыі, і ў выніку апынулася за кратамі.

**Максім Знак**, юрыст штаба Віктара Бабарыкі, быў затрыманы практычна ў адзін час з Калеснікавай – на пачатку верасня мінулага года.

Іх абвінавачвалі ў закліках да дзеянняў супраць нацыянальнай бяспекі, змове з мэтай захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам і стварэнні экстрэмісцкага фарміравання.

…Яшчэ на мінулым тыдні стала вядома, што вердыкт Максіму Знаку і Марыі Калеснікавай будзе вынесены Мінскім абласным судом у будынку Мінскага раённага суда 6 верасня. Пры гэтым афіцыйна паведамлялася: нягледзячы на тое, што сам працэс быў цалкам закрыты (нават адвакаты знаходзіліся пад падпіскай аб неразгалошванні), агалошванне прысуда пройдзе ў адкрытым рэжыме.

Працэс павінен быў пачацца ў 12.00, і больш чым за гадзіну да яго пачатку ля будынка суда пачалі збірацца людзі – блізкія і знаёмыя Максіма і Марыі, проста тыя, хто прыйшоў іх падтрымаць, журналісты, прадстаўнікі дыпламатычных місій.

Але нікога не пускалі не тое што ў будынак, а нават за агароджу суда, ля якой дзяжурылі два міліцыянеры. Апошнія праз рацыю атрымлівалі інструкцыі і на пытанне «Калі пачнуць пускаць у суд?» толькі паціскалі плячыма.

Тым часам людзі станавіліся ў ланцуг, які з кожнай хвілінай рабіўся ўсё даўжэйшым. Сам ланцуг быў ачэплены сілавікамі ў форме і цывільным, ля людзей хадзілі і здымалі ўсіх на камеру. Для чаго? Невядома, бо, калі працэс адкрыты, то патрапіць на яго можа любы жадаючы, і нічога супрацьзаконнага ў гэтым няма.

Людзі прыходзілі з кветкамі, аднак многім стала зразумела, што ў залу суда яны так і не патрапяць. Заставался не так шмат часу, каб прайсці кантроль і заняць месца ў судовай зале, а нікога па-ранейшаму не пускалі. Дазволілі прайсці ў будынак толькі бацькам і блізкім сваякам Марыі Калеснікавай і Максіма Знака (васьмі чалавекам), а астатнія засталіся на вуліцы.

Затое прапагандысты з дзяржаўнага тэлебачання на чале з сумна вядомым Рыгорам Азаронкам маглі спакойна хадзіць дзе заўгодна, а калі пабачылі ля варот прадстаўнікоў замежных дыпламатычных місій, пачалі на іх «паляванне».

– Зачем вы сюда пришли? – накідваўся на дыпламатаў Азаронак. – В Европе белорусские дипломаты ходят на суды тех людей, которые призывали к свержению государственного строя?

– Вы можаце да нас прыйсці ў амбасаду, і мы пагутарым, – ветліва адказвала прапагандысту прадстаўніца шведскага пасольства.

– Вот у вас на груди значок «Свабоду палітвязням», а кто их признал политзаключенными? – не адчапляўся Азаронак.

– Чаму ў вас столькі агрэсіі? – паспрабавалі паставіць прапагандыстаў на месца людзі, якія стаялі ў ланцугу. – Гэта ж некарэктна…

– Не ваше дело, насколько корректно мы спрашиваем, – далучыўся яшчэ адзін «бэтэшнік».

– Почему молчите? – Азаронка было не спыніць. – Вы против свободы слова? А как в Европе сейчас с политзаключенными? Что с теми людьми, которые задержаны на антиковидных митингах? Почему так жестко разгоняют эти митинги? Меня также интересует судьба белорусских граждан в шведском посольстве. Они плохо себя чувствуют… Что с ними сейчас?

*«Вот это и есть их свобода слова»*, – падвёў вынік Рыгор Азаронак, але праз нейкі час разам са сваёй «брыгадай» наскокваў ужо на іншых дыпламатаў, якія таксама стараліся не ўступаць у дыскусію з гэтымі так званымі інтэлектуаламі.

Дарэчы, дыпламатаў на суд так і не пусцілі. Гэтак жа, як і ўсіх астатніх, хто прыйшоў на «адкрыты» суд, каб падтрымаць Максіма і Марыю.

А падрабязнасці таго, што адбывалася ў судовай зале, затым распавёў «Народнай Волі» бацька Максіма Знака.

– *Калі я прыйшоў у залу пасяджэння, то вачам сваім не паверыў!* – эмацыйна ўзгадвае той момант **Аляксандр Мікалаевіч Знак**. – *Зала была ўжо цалкам запоўнена нейкімі людзьмі! Ніхто так і не зразумеў, хто гэта такія, адкуль і калі яны тут з'явіліся, бо ў залу ж міліцыя з вуліцы нікога не прапускала. Сядзелі, быццам манекены. Можна меркаваць, што іх у залу прыгналі дзеля таго, каб не пусціць тых, хто насамрэч прыйшоў падтрымаць Машу і Макса. Гэта, відаць, такая дробная помста, каб нашы дзеці нават не пабачылі сваіх сяброў і знаёмых і не адчулі падтрымку людзей.*

**– З Максімам пагутарыць не атрымалася?**

– *Я павітаўся з сынам незвычайным чынам. Мы разам з ім былі ў Непале, і там вітаюцца своеасаблівым жэстам прывітання. У судзе я склаў далоні, крыху пакланіўся і сказаў: «Намастэ». Максім у адказ у клетцы таксама пакланіўся, а вось рукі ў яго былі скаваны ззаду кайданкамі. Марыя таксама была ў кайданках, але рукі не за спінай, а перад сабой, таму магла паказваць сэрцайкі.*

*Я ўбачыў, што Максім фізічна выглядае досыць добра, нават крыху «падкачаўся». Гэта было заўважна.*

*Дарэчы, мне таксама паведамілі, што 7 верасня мне дазволена спатканне з Максімам, змагу з ім убачыцца сам-насам.*

…Суд (суддзя – **Сяргей Епіхаў,** дзяржаўны абвінаваўца – **Аляксандр Кароль)** прызнаў Максіма Знака і Марыю Калеснікаву вінаватымі па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса: ч.3 арт.361 (заклікі да дзеянняў супраць нацбяспекі), ч.1 арт.357 (змова з мэтай захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам), ч.1 арт.361-1 (стварэнне экстрэмісцкага фарміравання і кіраўніцтва ім) і асудзіў Максіма да 10 гадоў зняволення, Марыю – да 11 гадоў. Знаку прызначылі ўзмоцнены рэжым калоніі, Калеснікавай – агульны.

– *Шчыра кажучы, не цешыў сябе вялікай надзеяй, таму чакаў, што прысуд будзе жорсткі,* – дадае Аляксандр Мікалаевіч. – *Але Максім і Марыя – моцныя людзі. Упэўнены: яны ўсё вытрымаюць…*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ШЛАГБАУМ

## Польские пограничники за сутки развернули 151 нелегала

*Поток мигрантов на границе Беларуси со странами ЕС не спадает. За минувшее воскресенье пограничники Польши и Литвы пресекли 175 попыток незаконного пересечения границы.*

На белорусско-польской границе развернули 151 мигранта. Границу разрешили пересечь только одному гражданину Конго, у которого была травма ноги. Его забрала скорая и увезла в больницу, сообщает Польская пограничная служба.

На латвийском участке было спокойнее. Пограничники предотвратили 24 попытки незаконного пересечения границы с Беларусью, передает госпогранохрана Латвии. По данным ведомства, с 10 августа в общей сложности 954 человека не смогли незаконно пересечь границу.

ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

## У Літве мінімальны заробак падвысяць да 730 еўра

Урад Літвы ўхваліў павышэнне мінімальнай зарплаты да 730 еўра да выліку падаткаў – на 88 еўра больш, чым цяпер, паведамляе *Delfi*.

Разам з мінімалкай павялічацца іншыя выплаты і падаткі. Раней прапаноўвалася павялічыць мінімум да 703 еўра, аднак міністр сацыяльнай абароны і працы сказала, што мінімалка можа павялічыцца і больш.

Для параўнання: мінімальная зарплата ў Беларусі – 400 рублёў (135 еўра).

САЛІДАРНАСЦЬ

## Кітай афіцыйна перадаў Беларусі 500 тысяч доз вакцыны ад каранавіруса

У Беларусь прылецеў борт з Пекіна з 1,5 мільёна доз вакцыны супраць кавіда вытворчасці кітайскай кампаніі Sinopharm Group. Беларусь атрымала 500 тысяч доз у якасці бязвыплатнай дапамогі (раней наша краіна ўжо атрымала так 400.000 доз), а яшчэ 1 мільён доз быў закуплены па кантракце. Урачыстая цырымонія падпісання дакументаў аб перадачы паўмільёна доз вакцыны Sinopharm адбылася ў Міністэрстве аховы здароўя, паведамляе прэс-служба ведамства. Подпісы пад дакументамі паставілі міністр аховы здароўя **Дзмітрый Піневіч** і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь **Се Сяоюн**.

Паводле слоў Піневіча, кітайская вакцына паступіць у рэгіёны праз 2–3 дні.

ПРАГНОЗ

## У Беларусь прыйдзе «маладое бабіна лета»

*У Беларусі пачаўся другі тыдзень восені. Якое надвор'е чакае нас да 12 верасня? Свой прагноз агучыў метэаролаг* ***Дзмітрый РАБАЎ****.*

– *Восень імкліва ўварвалася на абшары Беларусі: зачасцілі дажджы, задзьмулі паўночныя вятры. А сярэдняя тэмпература паветра ўстанавілася ніжэй за кліматычную норму,* – канстатаваў беларускі сіноптык.

Дзмітрый Рабаў растлумачыў, што надвор'е ў Беларусі ў першы тыдзень верасня вызначылі атмасферныя франты, якія прынеслі халодныя паветраныя масы з паўночных шырот. Аднак ён жа паабяцаў, што халодная анамалія скончыцца ўжо праз некалькі дзён:

– *Наступіць звычайнае восеньскае надвор'е.*

Аднак усё ж на гэтым тыдні сярэднядзённыя тэмпературы ўстановяцца ў межах 3–5 градусаў ніжэй за кліматычную норму. Але на гэтым тыдні з 6 да 12 верасня беларусаў будзе часам радаваць сонца. Такое надвор'е можна будзе назваць «маладым бабіным летам». Да сярэдзіны тыдня на Беларусь перамесціцца атмасферны фронт з паўночна-заходняй часткі Еўропы, які прынясе няўстойлівыя паветраныя масы.

Пацяплее ў Беларусі да канца тыдня: удзень паветра будзе праграявацца да +19...+25°С.

– *З тэрыторыі Польшчы ў Беларусь у другой палове тыдня прыйдзе шырокі антыцыклон, які прынясе пераменную воблачнасць. Значных ападкаў пры гэтым не чакаецца, толькі на паўднёвым усходзе краіны магчымы невялікія дажджы, туманы з бачнасцю да 500 метраў,* – удакладніў Рабаў.

ВЕРСИИ

Артем ШРАЙБМАН:

# «Остается интрига – будут ли президентские выборы досрочными или нет?»



*Стоит ли в сентябре ждать политической амнистии, как на этот процесс влияют санкции и чем обернутся ближайшие электоральные кампании? Об этом в интервью «Филину» рассказал политический обозреватель **Артем Шрайбман**.*

**– Многие говорят, что сентябрь – показательный месяц в плане дальнейшего развития событий в стране. Идут разговоры и про политическую амнистию. Есть какие-то основания для них и стоит ли вообще нам чего-то ждать от сентября?**

– Смотря что считать важными событиями. В сентябре будет встреча Путина и Лукашенко, на которой либо смогут согласовать дорожные карты, которые теперь называются союзными программами, либо могут назначить заседание Высшего госсовета Союзного государства, на котором подпишут эти дорожные карты. Это достаточно важно, хоть и вряд ли судьбоносно.

Если говорить о событиях внутри страны, то, да, в принципе, логично выглядит какая-то частичная амнистия ко Дню народного единства. Особенно учитывая, что власти подсобрали минимум сотню, а то и больше прошений о помиловании, начиная с мая прошлого года. И если будет политическая воля, то сентябрь – логичный месяц для этого. Некоторых уже начали отпускать, как тех же представителей «Пресс-клуба» и PandaDoc.

Но предсказывать это сейчас однозначно невозможно, потому что Лукашенко пару раз эти решения отменял или откладывал. Если помните, первый раз политзаключенных стали освобождать еще после встречи Лукашенко в СИЗО. Потом этот процесс затормозился. Далее ожидали освобождений к 3 июля, но случились санкции, и соответственно этого не произошло – Лукашенко не хотелось выглядеть так, будто он прогнулся под давлением.

Что произойдет до возможного решения в сентябре, я не знаю. Будет какая-то новая угроза санкций со стороны Запада – и он опять вернется в какое-то такое конфронтационное русло.

**– То есть имеется зависимость между санкциями и амнистией? Недавно и Евгений Прейгерман озвучил мысль, что амнистия политзаключенных произойдет, если не будет новых санкций.**

– На мой взгляд, эта зависимость не линейная. С одной стороны, если бы санкции не вводились вообще, то какой смысл был бы тогда освобождать политзаключенных – кому это надо? Политзаключенных освобождают и пытаются начать торг именно для того, чтобы добиться какого-то ослабления или невведения новых санкций.

Но Прейгерман прав в том, что после введения санкций освобождать политзаключенных означает терять лицо. Поэтому Лукашенко всегда нужно какое-то время, чтобы уступки не выглядели уступками. Сколько этого времени нужно в сегодняшних условиях, созрел ли он на амнистию, о чем говорит Евгений Прейгерман, я не знаю.

10 лет назад всё было более понятно, санкции были четко привязаны к политзаключенным. Намного менее понятно это сейчас. Далеко не очевидно, что Запад отменяет санкции за освобождение политзаключенных. И, если этот пряник на столе не лежит, то Лукашенко, начав процесс и увидев, что ничего не меняется со стороны Запада, может опять этот процесс остановить.

Потому что для танго нужны двое, для торга – тоже.

**– А готов ли Запад идти хоть на какой-то диалог и обсуждать отмену/заморозку санкций?**

– Думаю, если бы они увидели, что тренд к освобождению политзаключенных стал таким устойчивым, не просто пять человек, а большой масштаб, если бы не набирались новые политзаключенные, то я вполне себе допускаю, что Запад приостановил бы расширение каких-то санкций, чтобы дать шанс позитивному тренду.

Потому что всё-таки в конце концов у всех этих санкций цель – чтобы условия выполнялись. И если Лукашенко начнет их выполнять, то логично будет тогда с санкциями повременить.

Но при этом, думаю, сегодня планка намного выше, чем раньше. То есть полной отмены санкций я точно не ожидал бы лишь за освобождение политзаключенных.

**– Сегодня как-то сложно понять общую логику происходящего. С одной стороны, потихоньку начинают отпускать людей, с другой – задержания и ликвидация организаций.**

– Взамен освобождаемых набирают новых намного более быстрыми темпами. Количество политзаключенных, несмотря на эти редкие помилования, продолжает расти. Общая логика, как и месяц назад, как и два, – продолжение репрессий. И то, что власть экспериментирует с какими-то освобождениями, еще не значит чего-то долговечного.

Слишком много может быть на этом пути тормозов, которые остановят любые позитивные процессы: угроза новых санкций, или, например, Лукашенко покажется, что как-то не так себя ведут освобожденные, возвращаются к какой-то активности, или Запад не реагирует смягчением своей позиции, не обещает отменить санкции и продолжает настаивать на полном выполнении условий. Любой из этих эпизодов может остановить даже робкое начало амнистии.

Поэтому тут сложно говорить о каком-то тренде, пока мы не видим десятков и сотен освобожденных людей. Особенно когда продолжают выноситься приговоры.

**– Периодически звучат разговоры про ближайшие электоральные кампании вплоть до президентских выборов. Когда это может случиться?**

– Мы знаем, что власть планирует референдум до февраля следующего года, и пока нет причин сомневаться, что он пройдет. Некоторые телеграм-каналы распространяли инсайды, что референдум должен пройти уже в сентябре, но пока ничего не происходит.

Я не думаю, что Лукашенко настроен до референдума как-то баламутить воду и назначать какие-то спонтанные и неожиданные кампании. Местные и парламентские выборы уже однозначно перенесли на 2023 год. Поэтому остается интрига только по поводу даты президентской кампании – будут ли очередные выборы досрочными или нет?

Мы понимаем, что Лукашенко может пойти на какие-то эксперименты, если он действительно задумал транзит власти. И, как принято у автократов, логичнее такие судьбоносные события делать тогда, когда их никто не ждет. Объявить и быстро провести, чтобы оппозиция не успела собраться.

Поэтому я допускаю, что он может объявить президентские выборы раньше. Валерий Карбалевич высказывал такие оптимистичные ожидания, что уже сразу после референдума. Я тоже не стал бы исключать, что в ближайшие годы (не в 2025 году, а до этого) Лукашенко может объявить досрочные президентские выборы и не пойти на них, а назначить преемника.

**– А чего нам ждать в плане репрессий? Потому что многие уехавшие из страны белорусы сейчас сидят на чемоданах, ожидая какого-то события или сигнала, который позволит им вернуться.**

– Тут вопрос в том, что даже если произойдет амнистия и пусть мы даже вернемся в ситуацию 2014–2015 годов, можно ли надеяться, что, пока Лукашенко у власти, следующие электоральные кампании не будут сопровождаться такими же жесткими репрессиями, как сейчас? Вот этого мы не знаем.

Сейчас, в отличие от ситуации десятилетней давности, даже амнистия не означает, что деэскалация необратима.

Вопрос возвращения, как вы понимаете, для меня тоже актуален. И я пока не вижу понятной силы, которая могла бы взять и принудить власть сойти с репрессивной колеи. Экономика не в той катастрофической ситуации, как многим оппонентам власти хотелось бы, особенно с миллиардом от МВФ, особенно с возможными кредитами от России взамен на интеграцию.

Залатывать дыры на какое-то время у Лукашенко деньги будут. Да, экономика не в лучшей форме, но есть разница между обвалом и просто каким-то вялым стагнирующим состоянием.

Да и много других факторов. Зависит и от тех же санкций – какие они будут и как на эту экономику будут влиять. Это тоже невозможно предвидеть.

**Анастасия ЗЕЛЕНКОВА.**

ЗА ПРАХАДНОЙ

# БЕЛАЗ: даўгоў на 1,2 мільярда рублёў

*У мінулым нумары «Народнай Волі» змешчаны матэрыял пра сітуацыю на «Гомсельмашы». А што адбываецца на БЕЛАЗе?*

Як вядома, 21 чэрвеня Еўрасаюз увёў сектаральныя санкцыі супраць Беларусі. Пра наступствы пакуль гаварыць рана, інфармацыя ёсць па выніках таго перыяду, калі сітуацыя была адносна спакойнай.

У першым квартале гэтага года БЕЛАЗ зарабіў 36 мільёнаў рублёў, годам раней былі чыстыя страты на 60 мільёнаў. Такія дадзеныя вынікаюць са справаздачы на адзіным партале фінансавага рынку.

У завода 371,4 мільёна рублёў даўгоў па доўгатэрміновых крэдытах і 880,7 мільёна – па кароткатэрміновых, агулам больш за 1,2 мільярда рублёў. Летась у гэты ж перыяд даўгоў было больш – 1,4 мільярда.

Чысты прыбытак БЕЛАЗа за мінулы год – 30 мільёнаў рублёў, годам раней было 265 мільёнаў рублёў. То-бок за год чысты прыбытак скараціўся ў 8 разоў. Колькасць персаналу за год паменшылася на 571 чалавека.

## Што з продажамі самазвалаў?

Белстат прыбраў аператыўную статыстыку па продажах кар'ерных самазвалаў. Летась Беларусь прадала іх у ЕС на 3,3 мільёна долараў. Гэта толькі 10 адзінак. Агулам жа за год у розныя краіны Беларусь прадала 435 адзінак гэтай тэхнікі. З краін ЕС самазвалы куплялі Польшча, Балгарыя.

Найбольш самазвалаў набывала Расія (на 106 мільёнаў долараў), Індыя (на 83 мільёны), Узбекістан (на 55 мільёнаў).




## Якія кампаніі адмовіліся ад супрацоўніцтва з БЕЛАЗам

Амерыканская кампанія Cummins, адзін з пастаўшчыкоў рухавікоў на БЕЛАЗ, перастала адпраўляць прадукцыю прадпрыемству і яго ным дылерам.

Гэтым летам пра поўнае спыненне супрацоўніцтва з БЕЛАЗам абвясціў Rolls-Royce. Раней пастаўкі ішлі праз яго нямецкую «дачку» MTU Friedrichshafen GmbH. Гэтыя дзве кампаніі – асноўныя пастаўшчыкі рухавікоў і сілавых установак для завода.

Раней сёлета ад супрацоўніцтва з БЕЛАЗам адмовіліся сусветныя кампаніі Becker Group, Liebherr і Danfoss.

Нямецкая Becker Group, у прыватнасці, заявіла, што *«пасля ўвядзення санкцый ЕС у дачыненні да БЕЛАЗа спыніла ўсе аперацыі з БЕЛАЗам з 9 ліпеня 2021 года»*. Кампанія пастаўляла фарбу для БЕЛАЗа праз фінскага дыстрыб'ютара Geramatic OY.

Іншы нямецкі канцэрн, Liebherr, які раней пастаўляў станкі і іншае абсталяванне для БЕЛАЗа, таксама пацвердзіў, што згодна *«палітыка [заключаецца] у захаванні нормаў і правілаў»*.

На пачатку ліпеня Міжнародная горна-металургічная група кампаній «Метінвест» заявіла, што адправіла ў Еўракамісію запыт з просьбай даць тлумачэнні наконт магчымасці закупаў у БЕЛАЗа, які падпаў пад санкцыі.

Пазней крывароўскі горна-металургічны камбінат ArcelorMittal паведаміў, што прыпыняе закупы ў БЕЛАЗа і адпраўляе гэтае пытанне на аналіз у свой юрыдычны аддзел.

Усе выпадкі прыпынення супрацоўніцтва звязаны з санкцыямі ці з парушэннямі правоў чалавека ў Беларусі.

## Наколькі паўплываюць адмовы ў пастаўках дэталяў

Пастаўшчыкоў камплектуючых для кар'ерных самазвалаў не так шмат. Паводле сцвярджэння фінансавага аналітыка «Альпары Еўразія» **Вадзіма Іосуба**, Rolls-Royce быў адным з асноўных пастаўшчыкоў рухавікоў.

*– Такія рухавікі робяць у прамыслова развітых краінах – ЗША, Японіі, Заходняй Еўропе. Тэарэтычна пры санкцыях можна наладзіць пастаўкі праз серыю пасрэднікаў, але гэта, хутчэй за ўсё, робіць працэс даражэйшым і падаўжае тэрміны паставак. Наўрад ці атрымаецца схаваць пастаўку рухавікоў для БЕЛАЗа, таму праблемы з вытворчасцю будуць сур'ёзныя,* – упэўнены Вадзім Іосуб.

На думку старшага навуковага супрацоўніка Bergos **Льва Львоўскага**, праблемы могуць узнікнуць нават з кітайскімі пастаўшчыкамі.

*– З санкцыямі ніхто звязвацца не хоча. Зразумела, што адмовіліся амерыканскія кампаніі. Кітайцы не спяшаюцца пастаўляць свае рухавікі, таму што Кітай, калі глядзець на эканоміку, – гэта адна з найбуйнейшых эканомік свету, ЗША для іх – важны партнёр. Чакаць кітайскіх матораў таксама не варта. Застаецца Расія. Буйныя кампаніі таксама не хочуць быць звязаны з санкцыямі. У БЕЛАЗа прыбытковасць не была на высокім узроўні, таму як яны будуць цяпер выжываць – сур'ёзнае пытанне. Хутчэй за ўсё, дзяржава будзе імкнуцца іх фінансаваць,* – мяркуе **Леў Львоўскі**.

## Якія рухавікі стаяць на БЕЛАЗах?

Зараз БЕЛАЗ прадае тэхніку праз свой сайт. Якія рухавікі выкарыстаны ў машынах?

Напрыклад, у мадэлі 7545 на 45 тон стаіць рухавік ад кампаніі Cummins. А вось мадэль 75440 грузападымальнасцю 32 тоны мае рухавік ЯМЗ – ад Яраслаўскага маторнага завода.

У мадэлі 75320 грузападымальнасцю 290 тон стаіць рухавік Cummins, у мадэлі грузападымальнасцю 450 тон – рухавік нямецкага вытворцы MTU (Rolls-Royce), які таксама спыніў пастаўкі на БЕЛАЗ. Мадэль грузападымальнасцю 360 тон таксама мае рухавік ад MTU, мадэль 75310 грузападымальнасцю 240 тон – рухавік ад Cummins.

Як бачым, у большасці мадэляў выкарыстоўваюцца рухавікі кампаній, якія цяпер адмовіліся ад супрацоўніцтва з БЕЛАЗам.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Глеб САНДРАС: «Калі рабочыя маўчаць, дык хто іх выратуе?»

*«Народная Воля» вырашыла больш падрабязна даведацца, што сабой уяўляе платформа «Рабочы рух» і ці ёсць нейкія рэальныя вынікі яе дзейнасці.*

На сайце гэтай ініцыятывы абвешчана, што платформу прадстаўляюць *«рабочыя і служачыя розных арганізацый, якія не змаглі змірыцца з беззаконнем, што адбываецца навокал».*

*«Рабочы Рух» – гэта ініцыятыва аб'яднання працуючых людзей Беларусі для абароны сваіх грамадзянскіх і працоўных правоў і свабод,* – гаворыцца далей. – *Аб'яднанне грамадзян для захавання іх бяспекі ва ўмовах прававога дэфолту ажыццяўляецца пры дапамозе зашыфраванай платформы з аднайменнай назвай.*

*...Нашай першапачатковай задачай з'яўляецца аднаўленне дэмакратычных правоў і свабод у краіне, у тым ліку шляхам агульнанацыянальнай стачкі як найбольш дзейснага і бяспечнага механізму, даступнага працоўным».*

**Глеб Сандрас** – адзін з сузаснавальнікаў платформы «Рабочы рух». Раней маладзёжны актывіст працаваў на «Беларуськаліі», узначальваў прэс-службу страйкама гэтага прадпрыемства, але затым у мэтах бяспекі быў вымушаны пакінуць краіну.

– Платформу запусцілі 12 красавіка гэтага года, – *распавядае **Глеб Сандрас**.* – Ідэйнымі стваральнікамі былі людзі са страйкамаў «Гродна-Азота», «Нафтана», Беларускага металургічнага завода... Частка іх была звольнена, некаторыя зараз знаходзяцца за мяжой, але нехта яшчэ і працуе на беларускіх прадпрыемствах.

Таксама нам дапамагалі беларусы Бостана і каманда, якая працавала па назіранні за выбарамі ў мінулым годзе.

**– Якая была асноўная мэта стварэння «Рабочага руху»?**

– Пра гэта заяўлена на нашым сайце: вярнуць законнасць у краіну. Акрамя таго, патрабуем вызвалення ўсіх палітвязняў і правядзення новых справядлівых выбараў.

У першую чаргу спрабуем даць людзям бяспечныя інструменты для таго, каб яны маглі аб'ядноўвацца і рыхтавацца, калі такі момант здарыцца, да агульнанацыянальнага страйку. Каб маглі бяспечна ажыццяўляць інфармацыйную падтрымку і падрыхтоўку да стачкі, выбудоўваць лакальныя гарызантальныя сувязі, каардынаваць дзеянні сваіх сябраў на міжрэгіянальным і рэспубліканскім узроўнях. Таксама маем намер спрасціць і палегчыць атрыманне дапамогі для ўдзельнікаў стачкі пры ўзнікненні такой неабходнасці.

**– І якія рэальныя вынікі вашай працы?**

– Да нашай платформы ўжо далучылася каля 17 тысяч чалавек. Зарэгістравацца даволі проста. Пры гэтым нейкіх персанальных дадзеных не патрабуецца. Адзінае, што неабходна, – пакінуць свой нумар тэлефона, каб ведаць, што гэты чалавек з Беларусі, але нумар шыфруецца, і да яго ніхто не мае доступу.

**– А што дасць нейкаму працоўнаму, скажам, з Мінскага трактарнага завода гэтая рэгістрацыя і далучэнне да вашага руху? Вы абароніце яго правы, прымусіце начальства МТЗ заробак яму павысіць?**

– Ёсць жа і на прадпрыемствах людзі з грамадзянскай пазіцыяй, якія зараз проста не могуць яе публічна выказаць, каб не патрапіць пад звальненне і рэпрэсіі. Але яны могуць пад дахам нашай платформы аб'яднацца. Калі чалавек хоча размаўляць з такімі ж, як ён сам, то мы даём такую магчымасць.




Натуральна, не хацелася б, каб у краіне быў страйк, каб спынялася эканоміка, але трэба быць гатовымі да любога развіцця падзей.

**– Вы зараз кажаце пра нейкія абстрактныя рэчы. Верыце, што ў сённяшніх умовах у Беларусі магчымы агульнанацыянальны страйк?**

– Пасля выбараў тысячы рабочых выйшлі на вуліцу, некаторыя з іх далучыліся да страйку. Але ведаеце, якая асноўная памылка тады была? Усё праходзіла стыхійна. А на базе нашай платформы, як ужо казаў, тыя ж рабочыя аб'ядноўваюцца. Гэта на будучыню.

**– Якія вы бачыце для сябе перспектывы? Зарэгістравалася ў вас 17 тысяч чалавек – і што далей?**

– Скажам так: у новай Беларусі платформа можа стаць падмуркам для стварэння аб'яднання па рэальнай абароне правоў працоўных.

**– Наколькі я разумею, стваральнікі гэтага руху знаходзяцца за мяжой…**

– Далёка не ўсе. З Беларусі з'ехалі тыя, хто выступае публічна. Яны вымушаны былі з'ехаць. Хачу дадаць, што ў жніўні мінулага года ўсё было хаатычна і неарганізавана.

**– Дык сёння вы маеце жывую сувязь з беларускімі прадпрыемствамі, з людзьмі, якія там працуюць?**

– Відавочна, што сёння страйкамы, якія з'явіліся на некаторых прадпрыемствах, ужо неактуальныя. Трэба сказаць, што галоўныя мэты не былі выкананы, патрабаванні рабочых не задаволілі.

А зараз мы маем інфармацыю аб тым, што адбываецца на прадпрыемствах, ад тых нашых сябраў, якія там працуюць. Дарэчы, у нас ёсць бот юрыдычнай дапамогі для працоўных, і некаторыя звяртаюцца. Не сказаў бы, што ідзе цэлая хваля заявак, але пытанні ёсць. І пытанні настолькі разнастайныя!.. Я раней і падумаць не мог, што многія працоўныя ў нас такія малаадукаваныя ў прававых пытаннях і пытаннях абароны сваіх правоў. Часам пачынаеш разумець, што заўсёды трэба пачынаць з малога, тлумачыць людзям элементарныя рэчы.

**– І якія, паводле вашай інфармацыі, зараз настроі ў рабочых?**

– У эканоміцы задзейнічаны мільёны людзей, таму я не магу казаць пра нейкую агульную тэндэнцыю і агульныя настроі. Але падтрымліваю сувязь з некаторымі былымі калегамі з таго ж «Беларуськалія», і там рабочыя занепакоены тым, якія могуць быць наступствы заходніх санкцый. Яны ў чаканні таго, што могуць прынесці гэтыя санкцыі.

**– Не выключана, што санкцыі ўдараць не толькі па рэжыме, але і па саміх рабочых, па іх заробках і дабрабыце…**

– Але ж пры гэтым трэба разумець, вынікам чыёй палітыкі сталі санкцыі. І людзі самі павінны вырашаць, што ім рабіць у такой сітуацыі.

Платформа якраз і створана для таго, каб дапамагчы тым, хто хоча аб'яднацца і разам распрацаваць план дзеянняў. Калі нехта не хоча, то з бізуном стаяць не будзем. Калі рабочым прыносіць задавальненне працаваць у цэху ў спякоту ці пры мінус двух градусах і пры гэтым яны будуць маўчаць, дык, як кажуць, хто іх выратуе? У кожнага свая галава на плячах…

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

АСАБІСТАЕ

# Так будуецца сямейнае шчасце

*Гісторыя аб тым, як звычайнай беларускай сям'і даводзіцца жыць і працаваць, каб здзейсніць мару мець свой дом*

## Стварылі сям'ю, пачалі будаваць дом…

Гродзенцы Ірына і Алег Стасевічы пабраліся шлюбам у 2013 годзе. Сямейнае жыццё пара пачынала ў доме бацькоў Ірыны. Ім выдзелілі асобны пакой, за камуналку не плацілі, харчы набывалі зрэдку, паколькі ў мамы свая гаспадарка і гарод.

Алег працаваў у прыватнай кампаніі апаратчыкам па насычэнні абліцовачных матэрыялаў і давучваўся на завочным аддзяленні па спецыяльнасці «інжынер-электроншчык».

Ірына пасля заканчэння юрыдычнага факультэта спачатку ўладкавалася юрысконсультам у прыватную фірму, потым некалькі разоў мяняла месца працы, але паўсюль было адно і тое ж:

*– Абавязкаў шмат, заробак нізкі, ніякага кар'ернага росту. Адным словам, вырашыла кардынальна змяніць працу.*

Стала анлайн-рэдактарам, заробак быў нядрэнны. У 2017 годзе пайшла ў дэкрэтны адпачынак.

Алег працягваў працаваць у Гродне ў буйной фірме па сваёй спецыяльнасці. Дарэчы, ён яшчэ да жаніцьбы зарабляў каля тысячы долараў у месяц. Някепскі заробак дазваляў маладой сям'і трывала стаяць на нагах. Але ў краіне пачалася інфляцыя, і заробак мужа знізіўся да 500 долараў у эквіваленце. А тут яшчэ ў 2016 годзе набылі недабудаваны трохпавярховы катэдж на прымальным кошце. Грошы, дарэчы, атрымалі ў спадчыну, спрабавалі класці ў банк пад працэнты, але інфляцыя ўсё з'ядала, а таму вырашылі ўкласці іх у нерухомасць. Тым больш што хацелася жыць самастойна.

*– Праўда, з домам мы ўсё ж памыліліся,* – прызнаецца Ірына. – *Дабудаваць такі гмах мы не здолелі б нават да старасці, а жыць хацелася цяпер. Прадалі яго і набылі аднапавярховы дамок прыкладна на 100 квадратных метраў.*

Праўда, і ён быў недабудаваны, а таму паўстала праблема: дзе браць грошы? Вырашылі, што муж паедзе на працу ў Расію.

## 4 тыдні там і 2 тыдні дома

Калі Алег у 2017 годзе ад'язджаў у Расію, іх першай дачушцы споўнілася 3 месяцы. Хаця Ірына заставалася з мамай, але ўсё роўна было нейк боязна, што мужа так падоўгу не будзе побач.

Алег ехаў не ў нікуды – уладкаваўся механікам (і, дарэчы, у хуткім часе заняў пасаду старшага механіка) у транспартную кампанію. Там ужо 10 гадоў працаваў яго стрыечны брат. Работа вахтавая: чатыры тыдні без выхадных працуеш па 12 гадзін у дзень, а потым на два тыдні едзеш дадому. Заробак – тысяча долараў у месяц. У Гродне працу з такім заробкам Алег знайсці не мог. Але жыць даводзіцца ў цесным вагончыку разам з такім самым гастарбайтарам, душ і сталоўка – на тэрыторыі прадпрыемства. Улетку яшчэ туды-сюды, а вось узімку бывае даволі самотна.

*– Ды і ўявіце сабе: працаваць чатыры тыдні па 12 гадзін без выхадных – як вытрымаць?* – уздыхае Ірына. – *За змену ён абслугоўвае ад 30 да 50 машын – вось што такое праца гастарбайтара...*

Ад пачатку яна настройвала мужа на тое, што гэта толькі да той пары, пакуль не дабудуецца дом. Упэўнена, што ў іх з Алегам аднолькавае разуменне: сям'я павінна быць разам.

## У гэтым былі свае плюсы...

У сям'і з'явіліся грошы, і цяпер Алег мог не сам займацца будаўніцтвам дома, а наняць брыгаду. Аказалася, што і будматэрыялы выгадней везці з Масквы, чым купляць у Гродне, – там яны значна таннейшыя.

*– Нават таблеткі мне, калі я была цяжарная другім дзіцём, муж набываў у Маскве,* – распавядае Ірына. – *Цацкі, адзенне для дзяцей і для мяне муж купляў там.*

Праўда, дадае яна, больш не было ніякіх адпачынкаў, вандровак, шопінгаў – на гэта даўно забыліся. Усе заробленыя грошы па-ранейшаму накіроўваюцца на будаўніцтва. Сям'я Стасевічаў марыць да 2022 года, калі дачка пойдзе ў першы клас, перабрацца ва ўласны дом.

## ...і свае мінусы

Ірына ведае, што мужу бывае складана фізічна і маральна – усё ж там адзін, без сям'і.

*– Здараецца, ён так стамляецца на працы, што мы цэлы тыдзень не можам нават паразмаўляць па тэлефоне. Часам зрываецца на мае бяскрыўдныя жарты, калі я імкнуся падтрымаць яго настрой.*

А самае балючае, паводле слоў жанчыны, што муж не бачыць, як растуць дзеці, як яны змяняюцца, і не толькі знешне.

*– Старэйшая дачка ўжо пачала разумець, што тата працуе недзе далёка, чакае яго. Я нават прапанавала ёй рабіць альбом са здымкамі да прыезду таты, каб ён мог аднавіць тое, што прапусціў.*

Дзяўчынцы не хапае бацькі, і хоць яна гэта пакуль не можа наўпрост патлумачыць, але ўвесь час з зайздрасцю глядзіць на іншых дзяцей, калі яны гуляюць са сваімі татамі, наведваюць крамы, ходзяць у кіно. Яна часта паўтарае: «А памятаеш, мама, калі тата прыязджаў...»

Звычайна, расказвае Ірына, пасля чатырох тыдняў нялёгкай працы муж прыязджае стомлены і суровы, і першы час яму, як правіла, усё не падабаецца, да ўсяго ёсць заўвагі.

*– Нам даводзіцца прыцірацца адно да аднаго. А хутка зноў развітваемся....*



Ілюстрацыйнае фота.

За два тыдні, якія Алег праводзіць у Гродне, яму трэба яшчэ шмат чаго паспець зрабіць на будаўніцтве дома, адпачываць часу папросту няма. Ірына кажа, што за гэтыя два тыдні ён імкнецца нагнаць упушчанае, а яна, так бы мовіць, працягвае плыць па цячэнні, што таксама іх падзяляе і, здараецца, прыводзіць да непаразумення.

## Жаночая доля

Ірына ўвесь час распавядае толькі пра мужа. Пра сябе, сціпла заўважае, асабліва няма чаго і сказаць. Маўляў, калі яго няма дома, то ўсё робіць сама, бо на ёй і быт, і дзеці, і ўсё, што можа здарыцца кожны дзень.

*– Гэта яшчэ добра, што ў яго графік не такі жорсткі. У маёй сяброўкі муж тры месяцы працуе і два тыдні дома. Ёй наогул даводзіцца не прыцірацца, а прывыкаць. Сяброўка кажа, што прыязджае чужы чалавек і яны ўжо на мяжы разводу.*

Самае страшнае ў такой сітуацыі, мяркуе мая суразмоўніца, гэта тое, што надыходзіць момант, калі многім ужо падабаецца жыць адным. Некаторыя яе сяброўкі прызнаюцца, што чакаюць, калі муж ізноў ад'едзе на працу.

Ірына кажа, што не рашылася б нараджаць другое дзіця, калі б ёй не дапамагала мама. Інакш, жартуе яна, хата проста зарасла б брудам, а яна нічога не паспявала б рабіць:

*– Я вельмі ўдзячна маёй маме. Яе дапамогу нельга нічым замяніць і ніякімі сродкамі ацаніць.*

Цешыць і тое, што старэйшая дачка ўжо можа нечым дапамагчы.

Гэта няпросты этап у жыцці, прызнаецца Ірына, але трэба яго перажыць, іншага выйсця няма. Яна ўпэўнена: калі людзі нечага вартыя, то яны не адмаўляюцца ад сваіх мар, а абавязкова іх здзяйсняюць.

У жніўні 2020 года муж напаўжартам заўважыў, што, можа, давядзецца пераязджаць не ў свой дом, а ў іншую краіну.

*– Я лічу, што лепшае месца для жыцця дома, а не на чужыне,* – упэўнена жанчына. – *Як бы там ні было добра, трэба вельмі пастарацца, каб даказаць адваротнае. Калі ўсе ад'едуць, хто будзе будаваць новую Беларусь?*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

***P.S.*** *Імёны і прозвішчы нашых герояў зменены па іх просьбе, сапраўдныя ёсць у рэдакцыі.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Не для таго калготкі купляюць людзі ўсё-ткі

У Столінскім раёне праваахоўнікі знайшлі і затрымалі пенсіянерку, якая абрабавала сваю 82-гадовую сваячку, забраўшы ў яе 420 рублёў, 410 долараў і прадукты з халадзільніка. Рабаўніца папярэдне вырвала тэлефонны кабель, нацягнула на галаву жаночыя калготкі, на рукі – пальчаткі, пагражала ахвяры цацачным пісталетам…

Асобныя пенсіянеры
Дзяцінеюць тады-сяды:
У іх капрызныя манеры,
Несамавітыя глузды,
І, пагуляўшы ў інтэрнэце
Ці паглядзеўшы там кіно,
Яны дурэюць, быццам дзеці,
Хоць і не школьнікі даўно.
Прынамсі, у адной бабулі
Кіношныя баевікі,
Падобна, клёпкі ўскалыхнулі.
(Не дзіўны выпадак такі.)
Здзяцінеў клёк яе старэчы,
Фантазія не знала меж.
«Дык годзе мне сядзець на печы,
Пара падацца на грабеж, –
Пенсіянерка парашыла. –
Хай «канфіскую» не мільён,
Аднак папоўню я грашыма
Свой нехлямяжы пенсіён
І ўсе свае жаданні-мары
Ажыццявіць змагу спаўна...»
Каго ж у якасці ахвяры
У дзень той выбрала яна?
Магла б абрабаваць банкіра
Або суседа-куркуля,
Ды страх душыў, прызнацца шчыра:
За што лячыцца ёй пасля,
Калі паломяць рэбры ў банку
Ці проста ў морду дасць сусед,
Тым больш што ён паддаты зранку?
Не, з імі звязвацца не след.
А выбрала яна бабулю
Старэй намнога, чым сама:
«Калі пакажа раптам дулю –
Маўляў, сабе на хлеб няма, –
Дык доўга кешкацца не буду –
Дастану цацку-пісталет…
Аддасць да ніткі з перапуду,
Каб не папасці ў іншы свет!
А пры патрэбе дам і ў рыла,
Дарма, што нейкая радня…»
Правесці акцыю рашыла
Нахабна, дзёрзка, сярод дня.
Каб бабка не пазнала ўсё-ткі,
Як аддавацьме свой запас,
На твар жаночыя калготкі
Адзела – чыста Фантамас!
Бабулька ледзь не акалела,
Страшыдла згледзела калі –
На крэсла чмякнулася цела.
Затым няшчасныя рублі
Пакорна выграбла з панчохі,
Каб долі горкае не мецъ.
Было там і даляраў трохі,
Што берагла сабе на смерць.
Здалося «гангстарцы», што мала, –
Разлічвала на цэлы пук.
Дык з халадзільніка дастала,
Што ў ім было: кавалак сала,
Сырок і яек дзесяць штук…
***
Я для яе зыход прадбачу:
Не пашкадуюць у судзе,
Яна жыццё свайго астачу
На нарах, мабыць, правядзе.
Вердыкт выносячы кароткі,
Пенсіянерак прызаву:
Патрэбна адзяваць калготкі
На ногі – не на галаву!

### Нечаканае звальненне

Камандзіроўка – дзесяць дзён.
У філіял паслалі дальні.
Калі дамоў вянуўся ён,
Быў звольнены ва ўласнай спальні…

### Грошы – як дзеці

Засведчаць жабракі і каралі,
Што меркі ў грошай і дзяцей адны:
Вялікімі якімі б ні былі,
Здаюцца нам маленькімі яны.

### Дзень цвярозасці

Разгубіліся людзі, калі
Дзень цвярозасці ў нас увялі:
Быццам свята для кожнага дома,
Але як адзначаць – не вядома…

### Не падслухоўвай

Зняверыцца не хочаш у жыцці?
Я спосаб памагу табе знайсці:
Не падслухоўвай з гэтае пары,
Што кажуць пра цябе твае сябры…

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Уладзіслаў КАВАЛЁЎ:

# «Ужо паўгода жыву ў Расіі. У Беларусі я не патрэбен…»

*Беларускі грасмайстар распавёў «Народнай Волі», чаму ён ужо паўгода жыве з сям'ёй у суседняй краіне.*

**Уладзіслаў КАВАЛЁЎ** – адзіны беларускі шахматыст, які ўваходзіць у першую сотню грасмайстраў свету.

Пасля выбараў у мінулым годзе Уладзіслаў падпісаў адкрыты ліст спартсменаў супраць гвалту і за сумленныя выбары.

Шахматыст павінен быў удзельнічаць у чэмпіянаце Беларусі, але за некалькі гадзін да старту прыняў рашэнне адмовіцца ад удзелу ў турніры.

*«Гэта было даволі нечаканае рашэнне і для мяне самога*, – распавядаў грасмайстар «Народнай Волі». – *Яшчэ зранку я меў намер удзельнічаць у чэмпіянаце, адмыслова рыхтаваўся да яго і збіраўся стаць пераможцам. Не было ніякіх папярэдніх планаў адмаўляцца ад першынства і рыхтаваць нейкі дэмарш. Але мяне да гэтага падштурхнулі.*

*Падчас адкрыцця чэмпіянату да мяне падышла намеснік дырэктара Рэспубліканскага цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі і ўручыла дадатковае пагадненне да кантрактаў спартсменаў. У дакуменце быў прапісаны шэраг абмежавальных пунктаў, якіх раней не было. Наколькі я зразумеў, гэта было звязана з падзеямі, якія адбыліся ў краіне пасля выбараў, і з тым, што многія спартсмены выказалі сваю пазіцыю, якая адрозніваецца ад «генеральнай».*

*Натуральна, мяне абурылі гэтыя абмежаванні. Мы маем Канстытуцыю, а людзі маюць права на абарону сваіх канстытуцыйных правоў. Чаму нейкія спартыўныя чыноўнікі абмяжоўваюць мае правы?*

*Адным словам, я адмовіўся падпісваць дадатковае пагадненне, за што мяне адразу ж паабяцалі звольніць. Прыйшоў дадому, яшчэ раз усё ўзважыў, пра ўсё падумаў і вырашыў, што такі дакумент падпісваць не буду.*

*Акрамя таго, прыняў рашэнне наогул не ўдзельнічаць у чэмпіянаце. І гэта быў правільны ход. Разам са мной адмовіліся выступаць на першынстве і яшчэ некалькі шахматыстаў».*



Пасля звальнення з Цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі па пагадненні бакоў Уладзіслаў Кавалёў працаваў сам на сябе. Адкрыў шахматную анлайн-школу, і гэта было пэўнай крыніцай прыбытку.

А на пачатку гэтага года шахматыст паведаміў, што пакінуў Беларусь.

*«Адзін спартыўны чыноўнік мне сказаў: «Вы ж разумееце, што, калі падпісалі ліст супраць гвалту, вы не зможаце тут знаходзіцца»*, – распавёў Уладзіслаў. – *Я адказаў: «Разумею, але прыбіраць свой подпіс не буду». Іншага варыянта ў мяне не было, а таму і з'ехаў».*

Грасмайстар больш не прадстаўляе Беларусь у шахматных спаборніцтвах. Насупраць яго прозвішча ў афіцыйным рэйтынг-лісце пазначана: Міжнародная федэрацыя шахмат (FIDE).

Дарэчы, не так даўно каманда «Свабодныя шахматысты Беларусі» стала пераможцам анлайн-турніру ў першым дывізіёне бундэслігі на адной з шахматных гульнявых платформаў. За каманду выступаюць такія вядомыя беларускія шахматысты, як **Уладзіслаў Кавалёў**, **Андрэй Жыгалка**, **Яўген Агрэст**, **Яўген Падольчанка**, **Дзмітрый Буланаў**, **Валерый Казакоўскі**…

– Па-ранейшаму жыву ў Расіі, займаюся сваёй шахматнай школай, – распавядае Уладзіслаў. – Часам на нейкія турніры выязджаю. Пандэмія, безумоўна, унесла карэктывы ў графік спаборніцтваў, але нешта праходзіць. Хаця на ўсе сто працэнтаў не можаш быць упэўнены, што турнір адбудзецца, нават калі раней пра адмену ніхто і не заяўляў. Таму вельмі складана нешта планаваць на больш-менш далёкую перспектыву. Як кажуць, жывём сённяшнім днём.

**– За зборную Беларусі выступаць ужо не будзеце?**

– На дадзены момант не збіраюся, тым больш што за паўгода, як з'ехаў з краіны, з Беларускай федэрацыі шахмат са мной ніхто не выходзіў на сувязь. Абсалютна ніякіх прапаноў, таму я гэта расцэньваю так: не маюць патрэбы ў маіх паслугах. Дык навошта мне выступаць за зборную, калі не маюць нічога прапанаваць?

**– Ад іншых краін прапаноў не было?**

– Прапановы былі, але, скажам так, не канкрэтныя. Таму пакуль бяру ўдзел у турнірах у статусе нейтральнага іграка.

**– А з прадстаўнікамі Федэрацыі шахмат Расіі не гаварылі?**

– Не бачу вялікага сэнсу, бо ў Расіі хапае і сваіх моцных шахматыстаў. Думаю, я ім не вельмі патрэбен, ды і мне гэта асабліва не трэба.

Таму проста жыву ў Расіі, займаюся сваімі справамі, і мне тут падабаецца. Нават і не ведаю, ці збіраюся вяртацца ў Беларусь. Пакуль такіх планаў няма.

Тут мяне цэняць больш, чым дома, тут і шахматы больш папулярныя, чым у Беларусі. Пастаянна запрашаюць на розныя мерапрыемствы, на самай справе ставяцца як да грасмайстра.

**– Адаптацыя да новага месца прайшла нармальна?**

– Без усялякіх праблем. Я пастаянна раз'язджаю па турнірах, таму для мяне жыццё ў іншай краіне і змена месца дыслакацыі – звыклая справа. Тым больш што і жонка пераехала разам са мной, так што не сумую ў адзіноце.

**Алесь СІВЫ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# «Первая ласточка прилетела»

*Директор Совета по международным отношениям «Минского диалога» **Евгений Прейгерман** рассказал, когда между Беларусью и Западом может стать «трагично плохо» и при каких условиях диалог (его «точечные попытки») все же может начаться.*

Краткая концепция внешней политики Беларуси за последний год – «кругом враги», но «мы готовы к диалогу со всеми без предварительных условий», сказал в комментарии «Белорусы и рынок» Евгений Прейгерман.

Он отметил, что из близких союзников Беларуси только Россия, а на западном направлении – «*невиданный кризис, более того, за последнее время сделан шаг к еще большей пропасти – после инцидента с самолетом, после введения новых санкций*».

Прейгерман считает, что, несмотря на то, что с самого начала кризиса (августа 2020 года) белорусские власти говорят, что готовы к диалогу, его со стороны понимают совершенно по-разному.

*«Западные страны изначально под диалогом имели в виду то, что Александр Лукашенко должен сесть за стол переговоров с кем-то здесь, внутри страны, а власти подразумевают под диалогом только разговор собственно властей и западных государств. Любые попытки навязать Лукашенко участие в этом диалоге его политических оппонентов Минск рассматривает как отсутствие уважения и вмешательство во внутренние дела»*, – выразил мнение политолог.

Он заявил, что «*за последние недели мы шагнули к пропасти*», а апогеем этого стало решение об отзыве согласия на назначение посла США Джулии Фишер (в ответ на санкции, которые приняли США). И, по мнению Прейгермана, «*движение в пропасть продолжится*», так как «*в Минске никто уступать не собирается, четко демонстрируется, что на любые меры воздействия будут ответы – ликвидацией возможностей двусторонних отношений и репрессиями внутри страны*».

Политолог, исходя из логики последних месяцев, предполагает, что Запад может пойти на еще большую эскалацию, «*ведь заявляется, что санкции вводятся во имя достижения конкретных целей: приостановки репрессивной машины, освобождения политзаключенных и, опять же, неких переговоров внутри страны*».

*«Ну и тогда мы возвращаемся на круг первый: власть не идет и не собирается идти на такие условия, последующее давление полностью разрушит перспективы какой-то внутренней нормализации и еще больше разорвет отношения с Западом. То есть с этой точки зрения все выглядит совсем печально. Но одновременно с этим, если смотреть более широко, то складывается ситуация, когда либо всё может пойти еще хуже, либо всё-таки за чередой каких-то точечных попыток начать разговаривать ситуация постепенно может не то чтобы нормализоваться, об этом речь вообще не идет, но хотя бы войти в русло постепенного замедления эскалации»*, – заявил Прейгерман.

Далее политолог объясняет, что «*разные международные сюжеты: миграционный кризис, события в Афганистане, потрясшие западный мир, – они могут нести последствия для Европы*», поэтому не исключает «*что какие-то точечные попытки разговаривать все же начнутся, и первая ласточка уже прилетела: на днях состоялась рабочая встреча с польской делегацией по поводу трансграничного сотрудничества*».

*«Сейчас есть некая развилка: либо всё пойдет совсем трагично плохо, либо всё-таки удастся на фоне проблем постепенно немного остановить вал эскалации»*, – резюмировал Прейгерман.

Политолог выразил мнение, что Беларусь и ЕС еще не перешли «*линии, которые делают невозможным возврат к конструктиву*» и что шанс можно сохранить в случае нормальной дипломатической и военной проработки.

*(Telegraf.by)*

ПРОЕКТЫ

# Арабский инвестор Мохамед Али Алаббар заявил о реализации в Минске одного из лучших в мире проектов



Компания Emaar Properties реализует в Минске один из лучших проектов в мире. Об этом заявил журналистам основатель компании **Мохамед Али Алаббар**, посетивший белорусскую столицу, сообщает *БЕЛТА*.

Председатель Мингорисполкома **Владимир Кухарев** и Мохамед Али Алаббар обсудили вопросы строительства в Минске умного города «Северный берег». «*Обсудили развитие проекта, познакомили с деталями дизайна, скоро представим всю программу,* – рассказал Мохамед Али Алаббар. – *Большое внимание уделили обсуждению качества жизни в комплексе. Каждый может построить жилье, но создать идеальные условия не только в объекте, но и за его пределами – задача более серьезная. При реализации проекта применим лучшие технологии, встроим искусственный интеллект, максимально дружественно отнесемся к окружающей среде. На территории люди смогут найти развлечения на любой вкус: музыка, театр, даже пляж. За последние 25 лет мы реализовали много проектов, но этот будет одним из лучших в мире*».

Как отметил Владимир Кухарев, юридические тонкости проекта специалисты отработали, на встрече внимание уделили практической стороне реализации проекта. В частности, обсудили возведение административных зданий и сооружений, выставочного центра и центра финансовых технологий. «*Сейчас на территории проводят изыскательские работы. В ближайшее время представят 3D-концепции по всем зданиям на площадке. Тогда можно будет приступать непосредственно к возведению объектов*», – подчеркнул глава столицы.

Комплекс «Северный берег» разместится в границах МКАД – пр.Победителей – ул.Орловская – Цнянское водохранилище. Стоимость реализации проекта составит 4 миллиарда долларов. В состав комплекса войдут жилые дома со всей необходимой инженерной и транспортной инфраструктурой, социальные объекты и объекты общественного назначения общей площадью более 6 миллионов кв. метров. Предусматривается также возведение Национального выставочного центра, Института искусственного интеллекта, Минского центра международной торговли. Реализовать проект планируют в течение 2021–2040 годов.

